— А чорт яго ведае. Я ж з малалеткамі зачапіўся. Памятаеш, колькі іх у мяне ашывалася? Разагнаў. Усіх выгнаў, каб не смярдзелі. Сікуны! Яны адзін аднаго закладваць пачалі. І з-за чаго? З-за дзевак, з-за травы... Смех! Раз да мяне людзі прыйшлі, папярэдзілі. Так і так, Швед, хочаш, каб падвал у цябе застаўся — гані ад сябе шпану. Другі раз людзі прыйшлі, а каб трэці раз не прыходзілі, я ўсіх смаркачоў з іхнімі сікухамі і выгнаў. Не біў, не палохаў, проста сказаў, каб забылі дарогу ў мой падвал. Яны забылі, а мне сумна стала. Прывык я працаваць, калі мне ў спіну глядзяць. Адным, наадварот, каб ціха, каб нікога не было. А мне лепш, калі нехта ў пакоі сядзіць, каб, зрэшты, было каго ў краму пасылаць. Сумна мне стала, тут якраз Тушкан і знайшоўся. Еду я ў электрычцы. Халадэча. За вокнамі снег з дажджом, а ён у тамбуры стаіць у адной кашулі. Пакурылі мы ў тамбуры, пагаварылі. У яго, акрамя кашулі, штаноў і чаравікаў, нічога і не было. Пашкадаваў я бічугу, пусціў у падвал.

— А як зваць яго?

— Кажа, што Саша. Толькі ён такі Саша, як я Дэдэрон. Раз назваў Тушканам, ён азваўся, так і пайшло... Цяпер ён справу сабе знайшоў... Дык каму грошы спатрэбіліся?

— Мне.

— Тушкан табе не напарнік.

— Чаму?

— Не будзеш ты з ім працаваць.

— Не разумею.

— Разумееш. Няма табе дарогі ў падвал.

Бэр засмяяўся, але Швед не падтрымаў яго.

— Не круці, Швед. Мы з табой сябрамі заўсёды былі. Хто мне дапаможа, калі не ты? Трэба мне ў сістэму вярнуцца. Уладкуюся вартаўніком, а на вымпелах падымуся. Будуць бабкі, будзем далей думаць. Не магу я, Швед, не магу ў іхняй сістэме жыць, па паркету хадзіць, на цэментовыя твары глядзець. Лепш у падвале па цэменце хадзіць ды на людзей глядзець. Пяць гадоў я на жываце поўз. Ведаеш, я ж пад інтэлектуала касіў... А больш не магу, бо яны не б'юць, яны плююць у душу... Усё робіцца толькі за спінаю. У вочы толькі добрыя словы, а за спінаю бруд. Стаіш, бывала, у светлым калідоры, дзе адных дзвярэй на тры інтэрнаты хапіла б, стаіш і разважаеш з якім-небудзь намеснікам загадчыка аддзела пра этычныя каштоўнасці і эстэтычныя набыткі. Ён цябе ненавідзіць, і ты яго адпаведна. Толькі ты яму гэтага не гаворыш, і ён табе гэтаксама. Здаецца, закапаў бы яго, рукамі асфальт узарваў бы, каб гэтага казла ў зямлю загнаць, ды не... Стрымліваешся.

Не ведаю, ці ёсць у чалавека душа? Але ў мяне дзіўнае адчуванне пачало з'яўляцца... Заходжу я ў свой офіс, а душа пакідае мяне, яна застаецца за дзвярыма. Я працую — запаўняю бланкі, падлічваю працэнты, выконваю параграфы, размаўляю, адказваю па тэлефоне, пішу лісты... Толькі ўсё робіцца механічна. Нарэшце я выходжу з офіса —

і душа вяртаецца. Не магу я так далей жыць. Сам сябе пачынаю баяцца.

— Не гані фуфел, Бэр, не пралезе. Ты адзіны, хто чысты з нашай сістэмы выйшаў. Ні кір, ні бабы, ні нарката цябе не хвалявалі. Няма табе дарогі ў падвал. Думаеш, не хачу з табой працаваць? Хачу. Толькі з усіх нас ты адзін іншым стаў. Ні Баця, ні Ірэн, ні Малы, ні Кэт, ні Салавей з Гаранінам — ніхто з падвала не выйшаў, мы ўсе ў бамбасховішчах засталіся, а ты выбраўся. За тое, што шчанюкоў не здаў, дзякуй. Не псіхуй. Ну, падставілі яны падножку, але мы з імі разлічыліся — грошы твае ў тваёй кішэні. А далей нашы дарогі разбегліся. Калі што якое, заходзь.

* * *

Бэр пайшоў на вакзал. Яму захацелася пастаяць на пероне, паглядзець на людзей, што ад'язджаюць, хацелася апынуцца ў натоўпе, хацелася расплавіцца ў развітаннях і сустрэчах.

З-за рога, насустрач Бэру, выйшлі двое мужчын. Ён пазнаў іх. Ён рэзка развярнуўся і пабег. Тупат пакаціўся па пустэльнай вуліцы. Бэр выбег на плошчу. Праз плошчу ён бег лёгка і хутка, але яму здавалася, што так марудна ён ніколі ў жыцці не бегаў. Бэр азірнуўся, Цапок і Алекс адставалі. Бэру пачало не хапаць паветра, нябачныя рукі сціснулі горла. Больш ён не азіраўся.

З плошчы, па лесвіцы, праз арку ён забег у двор. Цёмны, без ліхтароў, засаджаны кустамі універсітэцкі двор.

Бэр кінуўся напрасткі, па кустах і газонах, па кветніках і праз нізкія садовыя штыкетнікі... Ён нават не заўважыў, што разадраў калашыну. На сярэдзіне двара ён зачапіўся за дрот, упаў, садраў скуру на далонях, але імгненна ўскочыў і кінуўся далей.

На вуліцу, праз яе, у прахадны пад'езд, на апошні паверх, праз гарышча, у другі пад'езд, у двор, да сцяны, на сцяну, па ёй, на дах, па пажарнай лесвіцы, на кантэйнер са смеццем, паўз гаражы, да плота, праз плот, у сквер, праз вуліцу, у двор...

## Слоўнік

*Хіпі* — моладзь, якая выказвала тэатралізаваны пратэст супраць забюракратызаванага грамадства.

*Разборы* — высвятленне адносін.

*Бункер* — падвал, бамбасховішча, прыстасаванае для слухання музыкі ці іншых заняткаў сучаснай моладзі.

*Калёсы* — таблеткі з наркотыкамі.

*Сістэма* — арганізацыя хіпі, арганізацыя.

*Ролінг Стоўнз* — назва рок-гурта.

*Аўтастоп* — бясплатны праезд на спадарожных машынах.

*Кайф* — асалода, наркотык.

*Здаць* — прадаць.

*Іголка* — шпрыц (тырчаць на іголцы — сістэматычна ужываць наркотыкі).
*Падкурыць* — пакурыць анашу.
*Казёл* — апошні чалавек, гомасексуаліст.
*Мікрага* — мікрараён.
*Трава* — анаша.
*Біч* — валацуга.
*Падняцца* — зарабіць грошы.
*Бабкі* — грошы.
*Касіць* — прыкідвацца.
*Гнаць фуфел* — падманваць.
*Кір* — алкаголь.
*Бэр* — мядзведзь у старажытных славян.

— Вось папера. Бяры і пішы, як і чаму ты забіў чалавека, — загадаў следчы.

— Пісаць толькі пра забойства ці пра Сіні пад’езд таксама? — перапытаў Тарас.

— Пішы пра ўсё. Чым болей — тым лепей.

* * *

Цяпер я — вырадак і забойца.

А раней кнігі любіў, не часопісы і газеты, а кнігі. Спыніўся, упаў, разгарнуў, і цябе няма, і ўсё адно, які ўздымаюць сцяг. Ты далёка-далёка. Мора, белая лодачка плыве…

Та-ара-ас!!! Гэта мяне. Далей, далей ад свайго імя, ад клічу, ад загаду. І можна ўцячы. А як збегчы ад нянавісці да самога сябе, ад уласнай баязлівасці, ад калецтва?

Вырадак! І лепш пра мяне не скажаш. Баюся, што не пераадолею сваіх вар’яцкіх намераў. Вось з іх і пачалося…

Раптам у мяне з’явілася неадольнае жаданне схапіць нож і ўдарыць у жаночую шыю крышку вышэй ключыцы.

Яна мыла посуд, а я піў гарбату. Яна толькі што запарыла свежую гарбату ў парцаляным імбрычку. Я схапіў цыгарэты і ўбачыў, як у мяне калоцяцца рукі. Закурыў. Жаданне зарэзаць чалавека перавярнулася ў сполах. Забаяўся самога сябе. Спалохаўся.

І не было каму пярэпалах загаварыць. Яе звалі Рыта. Тупое імя, нібыта старое рыдлёвачнае дзяржальна. Рры-та-та-та. І ўся тупасць у «та-та-та». А твар у яе быў круглы і чысты, як зімовая поўня. Пастава — пругкая, зграбная. Сцёгны шыракаватыя, але гэта як каму.

— Ты ж не пакрыўдзіўся, праўда? — Рыта гаварыла да сушылкі, куды састаўляла посуд. — Ты ж адзіны, каму можна ўсё расказаць. За гэта і люблю цябе.

Яна азірнулася. Вочы ў яе былі, што ў казулі перасоўнага заацырка.

— Ну хочаш, я аддам табе грошы? — Яна выцірала паружавелыя ад вады рукі.

— Грошы твае.

— Давай тады падзелім напапалам.

Рыціна інфантыльнасць была бязмежная. Яна мяне абяззбройвала, як і ружовасць яе пальцаў. І жаданне ўдарыць мокрым нажом у белую шыю падалося мне смешным…

* * *

Посуд Рыта мыла раніцай, а напярэдадні ўвечары я пайшоў у бар.

Пасля сямі я звычайна хадзіў у бар, калі не ішоў у кіно. Канцэрты, тэатры, стадыёны — не маё. Цырк перарос, а шкада. Любіў блазнаў. Уга-гі-га-го… Сам хацеў на арэну ў велізарных чаравіках выбягаць. Не выйшла. Мая арэна — склад на РВП «Кінатэхпрам». Замест стракатага

камбінезона ды рудога кудлатага парыка — сіні халат ды чорны берэт. А пасля сямі — бар.

Рыта сядзела за столікам пад адчыненым акном, і над яе буйнымі рудымі кудзерамі мільгалі і пастуквалі абцасы, — бар у сутарэннях.

— Паставіш віна? — замест прывітання кінула яна мне.

— Заўтра, і то з умоваю, што сёння пойдзем да мяне.

— А што, зусім ні капейкі?

— Так, дробязь. Заўтра атрымаю.

Рыта ўзняла густанаведзеныя бровы і сцяла вусны.

— Зараз знойдзем, — я паспрабаваў прагнаць Рыціна расчараванне, хацелася, каб яе вусны ўсміхаліся.

— Добра, сягоння іду да цябе. Толькі ты нічога не думай і не кажы.

Да нас за стол падсеў Сяржук. Рот да вушэй. Усмешка крыху адцягвала ўвагу ад вялізнага носа, і ён навучыўся насіць яе амаль заўсёды.

Раней Сяржук хадзіў з Рытаю. Гэта ён прывёў яе ў наш бар. Потым яны пасварыліся, але гэта мала што змяніла, таму мне зрабілася непрыемна ад насатае ўсмешкі і Рыцінай радасці. Трэба было адразу паслаць іх куды падалей.

— Скінемся? — Сяржук паказаў роўныя, як нежывыя, зубы.

Мы паслухмяна вывернулі кішэні. Дробязі назбіралася толькі на сок. Вось тады Сяржук і прапанаваў прадаць Рыту. І я ўзрадаваўся. Сапраўды.

Угаворвалі доўга. Яна піла сок з лёдам праз саломінку і ўсё скардзілася, што баіцца. Мы запэўнівалі, што нічога страшнага не здарыцца, калі яна зробіць усё, як мы скажам. Мне абрыдлі ўгаворванні, а Сяржук зазлаваў і папярэдзіў: калі яна зараз адмовіцца, дык вылеціць з бара праз акно і больш сюды не зойдзе.

Мне ўявілася, як напаўаголеная Рыта заходзіць у бар, як усе прысутныя паварочваюць галовы і вымаўляюць доўгае «о».

Рыта згадзілася.

— Чорт з вамі, жабракі, — яна пусціла бурбалкі ў шклянцы з сокам.

Знайсці пакупніка — справа, як адразу ж і высветлілася, няпростая. Бар маленькі. Усе ўсіх ведаюць. Не прадаваць жа знаёмым, дый якія там грошы?

Мы ўжо ледзь не расчараваліся ў Сержуковай прапанове, калі заўважылі каля стойкі камандзіровачнага. Такіх здалёк пазнаеш па зашуганай паставе, адразу відаць чужаніцу. Горад, калі не свой, адразу накладзе на твар пячатку страху, нідзе не дзенешся. Ён узяў дарагі кактэйль з маслінаю і сеў у самы светлы куток, бліжэй да дзвярэй. Такім больш пасуе куфель піва, а не келіх з гнуткай саломінкаю.

Сяржук падсеў да госця і пачаў:

— Вам наш горад падабаецца?

— Акуратны, чысты, — камандзіровачны выдаваў, што спакойны.

— Мы любім парадак. Толькі сумна ў нас, не хапае яшчэ колькі мільёнаў насельніцтва, каб стала па-сапраўднаму весела.

— Мне дык не сумна, — запэўніў госць, нібыта ён сарамлівая і разважлівая жанчына, а не васьмідзесяцікілаграмовы мужык.

— Аднаму заўсёды сумна, — гнуў сваё Сяржук.

— Ты ж не адзін.

— У тым і справа, — Сяржук правёў даланёю па твары, нібыта страшэнна стаміўся. — Я на працы.

Я паклаў руку на Рыціна калена, яна накрыла маю руку сваёй. Захацелася зваліць. І трэба было сысці, забраць Рыту і сысці да мяне ці проста куды-небудзь.

— А што за работа ўвечары, дый яшчэ ў бары? Можа, ты пры выкананні? — госць заўсміхаўся, пэўна, уразумеў, куды заварочваецца размова.

— Дапамагаю самотным, — намёк на праваахоўныя органы Сяржук пакінуў без увагі.

— Атрымліваецца?

— Давай пойдзем, — зашаптала Рыта мне на вуха.

— Пасядзім, — я зняў руку з яе калена.

— Звычайна абломліваецца, — запэўніў Сяржук камандзіровачнага.

— А што трэба, каб абламалася? — той адсунуў келіх з костачкай ад масліны на край стала.

— Жаданне мець жанчыну.

— Жаданне ёсць.

Тут бармен запусціў рок-н-рол, і я толькі ўбачыў, як Сяржук гаворыць, як камандзіровачны хітае галавой і завязвае на вузел саломінку.

Па дарозе да нашага стала госць узяў коктэйль, але калі сеў, дык паставіў келіх перад Рытаю. А яна замест «дзякуй» выдала «ну-ну». Мне падалося, што праз халоднае «ну-ну» ўсё і ляснецца, але я памыліўся.

— Знаёмцеся, наш госць... — пачаў быў Сяржук.

— Не трэба фарматворчасці, — госць махнуў рукой, нібыта адганяў камара. — Ніколі не думаў, што ў вас усё так лёгка вырашаецца.

— А ў вас інакш? — пацікавіўся я.

— Цяжэй. Можна знайсці жанчыну, але горад невялікі, і плёткі разлятаюцца імгненна, а ў мяне пасада.

— Спачуваю, — Сяржук пагладзіў пальцам дзюбу свайго носа. — А колькі каштуе ў невялікім горадзе палавое задавальненне?

Рыта пачырванела, але ў прыцемку пунсовасць на твары была ледзь заўважная, можна скінуць на алкаголь. Я паклаў далонь на яе калена.

— Усё залежыць ад часу і месца, — адказаў камандзіровачны.

Мне тады згадаўся школьны падручнік па грамадазнаўству — месца, час, вярхі, нізы, могуць, хочуць, працэнты...

— Месца — аднапакаёўка прыбраная і чыстая. Час — дзве гадзіны. Ну, а гэта Ліза.

— Дваццаць пяць, — падсумаваў госць.

— Гэта Лізе. У сталіцы ўсё значна даражэй.

— Вам па сто пяцьдзесят каньяку.

— Па дзвесце пяцьдзесят, пляшка, — удакладніў я і зняў далонь з Рыцінага калена.

Камандзіровачны прынёс ад бармена каньяк у шкляной колбе.

— Мы тут пачакаем, — Сяржук пстрыкнуў па колбе, — за каньяком.

Задаволены госць і сумная Рыта, а цяпер Ліза, пайшлі.

Сяржук узяў каньяк, падышоў да бармена і папрасіў схаваць. Колба знікла за стойкаю.

* * *

Праз кухню і склад мы з Сержуком трапілі ў цёмны, застаўлены прыватнымі машынамі двор. Шпаркай хадою выйшлі на праспект, прабеглі праз сквер, паўз фантан, мінулі тэатр і нарэшце апынуліся каля шэрага будынка з вялікай вазаю на франтоне. У ім быў толькі адзін пад'езд з найменнем Сіні. Назоў Сіні пад'езд атрымаў толькі за тое, што дзверы на гарышча былі пафарбаваны ў брудна-блакітны колер. Праз гарышча можна патрапіць у суседні дом, так што ў Сінім ажно тры выхады і адпаведна ўваходы. Галоўны, ці асноўны, уваход — металёвыя дзверы з груvасткім парталам на вуліцы Карла Маркса (апошнім часам яе называлі Маркеса); другі, ці чорны, выводзіў у двор; трэці, той, што праз гарышча, на вуліцу Фрыдрыха Энгельса. Нават па назовах вуліц відаць, што дом стаіць у самым цэнтры сталіцы. Адпаведна, фасад абвешаны мемарыяльнымі дошкамі. Ажно два профілі рэвалюцыянераў, анфас лаўрэата ўсіх магчымых на Беларусі

літаратурных прэмій і анфас вядомага этнографа і даследчыка старажытных культур Блізкага Усходу. На адзін будынак дык і занадта, здаецца.

Пэўна ж, некалі ў прасторным пад'ездзе і кілімы ляжалі, а цяпер трэба пад ногі глядзець.

Сяржук згасіў святло. Мы схаваліся ў нішу, дзе па задуме архітэктара павінна была б стаяць скульптура, якая-небудзь напаўаголеная Венера з падносам для візітовак у мармуровых руках.

Рызыка сутыкнуцца з выпадковым чалавекам у Сінім пад'ездзе была мінімальная, бо жыльцы такія паважаныя і старыя, што нават сваіх хвастатых сяброў выгульваюць удзень.

— Мала мы ўзялі з камандзіровачнага. Што гэта за грошы, пляшка каньяку? — зашаптаў я.

— Яшчэ возьмем, — атрымаў у адказ.

— Ты пачнеш, — сказаў я.

— Пачну. Толькі курыць страшэнна захацелася.

— Патрываем. Колькі тут засталося?!

* * *

Спружына на ўваходных дзвярах войкнула — кай-й-йн, кай-й-йн.

— Як цёмна! — Рыцін баязлівы голас запоўніў цемру.

— Зараз знайду запалкі, — спакойна сказаў камандзіровачны.

— Не трэба псаваць сярнічку, — Сяржук ужо стаяў за спінаю ў госця і загароджваў выхад.

— Што тут адбываецца? — разгубіўся той. Я ўклініўся паміж Рытаю і разгубленым госцем.

— Ты што да дзяўчыны лезеш? Яна ж не хоча гэтага, — з Сержука паперла агрэсія, так прэ паветра з прабітай шыны.

— Як гэта не хоча? Ліза? — рэха ўзняло ўгару дзявочае імя.

А яна схавалася ў нішу, як дамаўляліся.

— Згвалціць хацеў? Га? — Сяржук хапае камандзіровачнага за руку вышэй локця.

— Я пазнаў вас, вы з бара, — з госця рвалася недарэчная радасць.

— Не крычы! — сыкнуў я на ўзрадаванага госця і ўчапіўся абедзвюма рукамі ў ягоны пінжак.

— Я пазнаў вас, — паўтарыў ён, але без радасці.

А я пацягнуў пінжак на сябе і адчуў, як гаспадар напружыўся, зрабіўся цяжкі, чыгунны, нязрушны.

— Не крычы. Слухай. Уважліва слухай. Ты пазнаёміўся з ёй на вуліцы. А да гэтага ты выпіў у бары і таму табе захацелася пазнаёміцца з дзяўчынаю. Ты прапанаваў ёй прайсціся. Ты зацягнуў яе ў пад'езд. Напалохаў і прымусіў ісці ў пад'езд, каб там згвалціць. Яна закрычала. Мы пачулі...

— Я...

— Ты. Не крычы. Ты — юрлівы кныр — хацеў згвалціць дзяўчыну, а мы не далі. Вось і ўся раскладка. Або мы цябе здаём, і ты атрымліваеш

тэрмін за спробу згвалтавання. Сведкі ёсць. Тры — адзін. І ўсё на нашу карысць. Або ты плаціш няўстойку і ціха валіш на правінцыю займацца жончынай мастурбацыяй.

Пасля гэтага маналога я ажно ўспацеў.

— Грошы я дам. Але тут цёмна. Трэба выйсці на вуліцу.

— А вось на вуліцу не трэба выходзіць, — зашаптаў Сяржук. — Калі і дасі дзяўчыне на рубель больш, яна не пакрыўдзіцца. Ліза, ты ж не пакрыўдзішся, калі атрымаеш больш?

Адказу не было.

Камандзіровачны дастаў партманет. Сяржук схапіў яго і яхідна прамовіў:

— Я перадам. У мяне — як у дзяржбанку.

У гэтым гіенавым жарце і была памылка.

Камандзіровачны крутнуўся ўсім сваім сытым целам, вырваўся з маіх рук, размахнуўся і ўдарыў Сержука па горле. Той схапіўся за шыю і ўпаў на бок. Я атрымаў локцем у ніз жывата, і мяне зламала напапалам. Рыта ўскрыкнула і вылецела з нішы. Камандзіровачны сагнуўся, схапіў партманет, пераскочыў цераз Сержука, які курчыўся на падлозе і ніяк не мог ухапіць паветра. У мяне пазелянела ўваччу, і я ўбачыў сотні маленькіх іскрынак, што танчылі ў паветры. Рыта ўкленчыла над Сержуком. Камандзіровачны ламануўся ў дзверы.

Войкнула пакрыўджаная спружына.

— Сяргей! — закрычала Рыта.

— Хутка наверх, — я дапамог ім падняцца.

Мы дабеглі да брудна-блакітных дзвярэй. Праз гарышча выбраліся ў суседні дом, праз ярка асветлены пад'езд вылецелі на вуліцу. Беглі мы хутка. Я нават забыўся на свой боль у жываце. Спыніліся толькі каля бара ў цёмным двары, спрэс застаўленым прыватнымі машынамі.

* * *

— Я зараз, — кінуў Сяржук хрыплым голасам і памкнуўся да дзвярэй з шыльдачкаю: «Чужаніцы ўваход забараняецца».

— Стой, — я схапіў яго за крысо джынсовае курткі.

— Каньяк забяру. Ды пусці ты. Не заявіць ён. П'яны, разумееш, у чужым горадзе, а мы цвярозыя.

— А Ліза? — кіўнуў я на Рыту.

Сяржук спыніўся і павярнуўся да яе, тая вытрасала каменьчыкі з красовак, не раўнуючы — чапля на адной назе.

— Ён табе не казаў, у якім гатэлі спыніўся?

— Не казаў. А што? — яна абула красоўкі.

— Трэба морду яму набіць, — Сяржук згарнуў кулакі.

— Раз набілі, хопіць. Лепш па каньяк ідзі.

Сяржук павярнуўся да мяне і развёў рукамі:

— Ты чуеш? Яна мяне пасылае. Не, ты на яе толькі паглядзі... Дык у якім гатэлі ён спыніўся?

Я ўклініўся паміж Рытаю і Сержуком. Толькі гэтага яшчэ не хапала, сямейнае сцэны каля бара.

— Спакойна, Сяржук. У бар пойдзе яна. А жывот мне баліць не менш за тваё горла. Зараз палякуемся.

— Сапраўды, я зганяю па каньяк. Усё ж нармальна скончылася.

— Ідзі. Горла баліць…

Рыта прынесла каньяк у бутэльцы з-пад мінералкі, колбу бармен пашкадаваў.

* * *

Рыціна інфантыльнасць была бязмежная. Яна мяне абяззбройвала, як і прахалодная ружовасць яе вільготных рук. І жаданне ўдарыць мокрым нажом у белую шыю падалося мне смешным, але толькі на адно імгненне.

— Толькі ты не кажы Сержуку, што я была з камандзіровачным у гатэлі…

Яна гаварыла, гаварыла, гаварыла…

Я ўзяў са стала чысты нож і ўдарыў яе.

* * *

А цяпер можаце забіць, мне ўсё роўна.

У мяне скралі парасон. Не такая ўжо і вялікая страта. Але са знікненнем парасона ўзнікла шмат непрыемнасцяў. Яго знеслі якраз тады, калі ішоў нудны дождж, а прыдбаць парасон у крамах было немагчыма, яго можна было толькі дастаць у перакупшчыкаў за суму, якая набліжалася да майго месячнага заробку. У мяне знік парасон, і першае, што прыйшло на розум, — я цэлыя чатыры тыдні параваў дарэмна. Толькі не думайце, што я лайдак і не магу за месяц зарабіць на два парасоны. Магу. Парасон сёння каштуе тысячу рублёў, маецца на ўвазе добры мужчынскі парасон, да якога і прырабілі ногі. А ў пераводзе на долары гэта будзе азначана меншай лічбаю, прыблізна трыццаць тры. Я знарок напісаў трыццаць тры, гэта мой узрост, мне якраз столькі гадоў. Акрамя свайго парасона я люблю свае кнігі, свой Мінск пад бел-чырвона-белым сцягам, сваю котку, і самае галоўнае — люблю сябе. І не збіраюся гэтага хаваць: хто не любіць сябе, той наогул не здольны нікога палюбіць. А тут раптоўна па маім самалюбстве нанеслі нямоцны, але дакладны ўдар.

Толькі трэба вярнуцца, і я пачну нявыдуманую крымінальную гісторыю без нябожчыкаў і паліцыянтаў ад самага пачатку.

Адпачываць люблю або ў чэрвені, калі курорты не паспелі згубіць вясновую чысціню

і свежасць, або ў верасні, калі ўжо няма на пляжах крыклівых дзяцей ды іх раздражнёных бацькоў. На гэты раз мне дасталася пуцёўка ў Латвію на чэрвень. Выдатна. Люблю камфорт: гарачы душ, два пакоі, лоджыя, басейн, корт... І гэта было абяцана, і ўсё я займеў, акрамя сонечнага надвор'я. Але тут вы памыляецеся, як і ўсе чытачы дэтэктываў: мне без розніцы, якое надвор'е, калі корт і басейн пад надзейным дахам, а на штодзённы шпацыр можна схадзіць пад надзейным парасонам.

І вось Латвія — краіна чужая, паўночная, але ж напоўненая германскай містыкай і латгальскай цнатлівасцю. Латвія вельмі алейная і жывапісная побач з такімі аскетычнымі суседзямі, як вітражная даўгатварая Літва ды графічная чорна-блакітная Эстонія. Латвійскую жывапіснасць я ўбачыў выпадкова: важкія сасновыя калодкі свяціліся мядовай чырванню на смарагдавай, насычанай вільгаццю траве. Я не гавару пра Рыгу, горад, дзе сышліся ў двубоі імперскія ідэі — расійскі шавінізм і германскі мілітарызм. Яны сутыкнуліся і высеклі іскру — у мэталёвым абветраным горадзе нарадзіўся мастак, які займаўся кінафікацыяй сусвету і стварыў мантаж атракцыёнаў. У Рызе нарадзіўся Сяргей Эйзенштэйн. Рыга не жывапісная і не алейная, і не латышская, як не германская і не расійская... Рыга — вольны горад-брама. І мне даспадобы адпачываць пад Рыгаю ў Юрмале. Я — істота урбаністычная, бункерская, але ўсё ж

патрэбна раз на год пашпацыраваць уздоўж мора і адчуць бязмежнасць пrасторы, напоўніцца тым гарызантальным плоскасным спакоем, які можа даць адно марскі далягляд у штыль.

У першыя тры дні майго адпачынку ішоў дождж, самы звычайны дробны прахалодны дождж. Я выходзіў два разы на дзень пад шаўкавіста-атрамантавым парасонам на доўгі шпацыр і наведваў усе, што трапляліся на вочы, кавярні. Кава — маё слабое месца, ахілесава пята ў маіх гурманістычных запатрабаваннях. Я магу есці амаль усё, што ні паставяць на стол еўрапейскія кухары, магу абмежавацца і нават выкрасліць на колькі тыдняў са свайго рацыёну алкаголь, але не ўяўляю сябе без кубачка моцнай, хай сабе і адносна добрай, кавы. Кавярні ў Юрмале на кожным кроку, яны розныя, а шукаеш самую лепшую. Я не палітык, які з дзвюх непрыемнасцяў выбірае найменшую, я пазбягаю непрыемнасцяў, і калі ў кавярні патыхае смажаным падгарэлым тлушчам або прадаюць гарэлку замест бальзаму і каньяку, сыходжу адразу, нават не спыняюся каля стойкі. У кавярні са шматабяцальным назовам «Арабіка» пахла каньяком і каваю, гэта дастатковы мінімум, каб скласці парасон і паставіць яго ў кут. Памылка. Зразумела, на кожным курорце злодзей сядзіць побач са злодзеем, п'е каву. Калі нехта адпачывае, нехта павінен працаваць.

Зрэшты, зладзейства — не праца і не адпачынак, зладзейства — асалода. Паверце майму нешматлікаму вопыту. Па сваёй прыродзе я

злодзей, самы натуральны, ад нараджэння. Я злодзей па сваёй сутнасці, бо падчас зладзейства атрымліваю эратычную асалоду. Крадзяжамі я займаўся раней, цяпер не займаюся, знайшоў іншае месца для ўкладання сваёй патэнцыі, а ў юнацтве я краў. Мне цяжка, паверце, мне сапраўды сорамна прызнавацца ў дробных, але такіх гідкіх грахах. Краў я паштоўкі, толькі паштоўкі. Заходзіў у кнігарні, набліжаўся да вітрыны, выбіраў пачак якасных рэпрадукцыяў і… Не ўцякаў, не засоўваў у кішэнь, не хаваў у папку, а трымаў у руцэ і шукаў вачыма прадаўшчыцу. Позіркі сустракаліся — самы адказны момант. Я адчуваў, як адзначалася розніца полаў, натуральным чынам адчуваў кайф і ў дадатак разумеў, што жанчына па другі бок прылаўка таксама перапоўнена эратычным пачуццём. Ад яе нават пачынаў сыходзіць вельмі спецыфічны, ні з чым не параўнальны, ледзь чутны пах — водар жанчыны. Я ўспрымаў гэты павеў як знак, павольна паварочваўся да ахвяры спінаю і зносіў з крамы неаплачаныя паштоўкі. У адной і той жа краме я ніколі не парушаў спакою двойчы. Мае ўчынкі былі містычным актам разбурэньня цнатлівасці, і я адчуваў, што другі раз цуд не адбудзецца, мой метад непаўторны, яго нельга множыць. Я збіраў паштоўкі з рэпрадукцыямі жывапісу, з захапленнем разглядаў маленькіх папяровых Тыцыянаў і Вермеераў. І, здавалася, маім крымінальным подзвігам не будзе канца, а калекцыя будзе

павялічвацца й пашырацца. Але аднойчы ў Мінск прывезлі з Нямеччыны палотны старых майстроў. Арыгіналы Батычэлі, Джарджоне, Вермеера развесілі па залах у музеі. І каля невялікага палатна Джарджоне «Сон Венеры» я зразумеў, што ніколі ў жыцці ў мяне не хопіць таленту ўкрасці гэтае палатно, а паштоўкі — пыл, смецце, дрэнь. Больш я ніколі нічога не збіраў. І цяпер люта не люблю ўсіх калекцыянераў, яны бяздарныя, яны здатныя грэбсці толькі пад сябе. А вось пра злодзеяў так не скажу, іх шкадую, бо разумею ўсю сілу пачуццяў, усю іх вастрыню падчас здзяйснення амаральных задум. І таму ў свеце раскрываецца толькі кожнае чацвёртае злачынства. Сярод злодзеяў больш таленавітых людзей, чым у клане дэтэктываў. Вельмі сумны факт, калі зірнуць з боку праваахоўных органаў. І застаецца адно супакоіцца, а лепшае супакаенне — шпацыр пад парасонам і кава з каньяком.

Па свой спакой я і зайшоў у «Арабіку» і сеў на высакаватае крэсла за вялікую стойку. Стойка цёмная, дзераўляная і чыстая, яна вялікім паўколам займала амаль увесь пакой, сцены якога былі шчыльна абабітыя чырвонай тканінаю. Вузкія акенцы свяціліся цёпла-аранжавымі геаметрычнымі вітражамі. Бармэн і афіцыянтка рухаліся хуценька, не раўнуючы, як ільвы ў вальеры. За стойкаю, пры сцяне, узвышалася этажэрка, састаўленая з дыхтоўных арачак, на ёй на круглых сподках залаціліся ватрушкі. Бутэлькі з каньяком абступілі споды, як

вежы замкавы пляц. Са столі, забранай светлым паркалём, звісалі на чорных ланцужках стылізаваныя пад сецэсію сучасныя сакавіта-жоўтыя ліхтары. Карацей, стыль — курортны кіч, і я, каб не псаваць настрою, разгарнуў часопіс. Другая памылка. І ніякіх апраўданняў. Паставіць парасон, сесці да яго спінаю і чытаць часопіс — натуральная правакацыя, сапраўднае спакушэнне. Чалавек бачыць гаспадара, які заняты чытаннем сумнеўнага выдання па псіхалогіі, «Alter ego», бачыць выдатны парасон, такую патрэбную ў хмурнай Латвіі рэч, і...

А я піў каву без цукру і чытаў «Сацыяльна-псіхалагічныя каментарыі да партрэту латышскай сям'і», праглядаў не без цікаўнасці станоўчыя рысы латышскага характару. Любоў да працы. Настойлівасць. Грунтоўнасць. Сентыментальнасць. Не разумею, чаму станоўчыя. Вернасць лёсу і народу. Зазначаў я не без задавальнення (што з сабой зробіш — задавальненне заўсёды з'яўляецца паперадзе рацыянальнага і разумнага) і адмоўныя рысы. Зайздрасць. Эгаізм. У складальнікаў табліцы выйшла памылка, эгаізм — станоўчая якасць. Выхваленне. Пасіўнасць. Няўважлівасць... Я радаваўся, і не з-за таго, што ў латышоў столькі адмоўных рысаў, а таму, што параўноўваў іх з беларусамі. Мы не горшыя, а толькі іншыя. Але радаваўся я дарэмна, бо, перагарнуўшы старонку, зірнуў у кут і не ўбачыў любімага парасона з бліскучай скуранай рукаяццю, ад якога застаўся адно чахол у маёй кішэні.

Першае, што я зрабіў, — кінуўся на вуліцу. Я стаяў на ганку кавярні і глядзеў на мінакоў. Дождж памацнеў. Па абодвух баках праспекта Дубулты рухалася безліч розных парасонаў: стракатых жаночых, чорных, сініх мужчынскіх, празрыстых дзіцячых... Майго не было. Стаяць без парасона пад дажджом не мела сэнсу. Я вярнуўся ў кавярню і сеў на сваё высокае крэсла. Бармэн запытальна паглядзеў на мяне. Я сказаў, што ў мяне скралі парасон. Ён пацікнуў плячыма і прамармытаў нешта накшталт таго, што яму няма калі глядзець за чужымі парасонамі.

Не люблю такіх бармэнаў — нізенькі з прылізанымі валосікамі і тонкімі вусамі цырульніка, якому шанцуе. Такія мужчыны носяць чаравікі на высокіх абцасах, робяць манікюр, пакутуюць на комплекс Напалеона ды імкнуцца спадабацца ўсім асобам жаночага полу. У свае вольныя дні яны сядзяць у рэстаранах, прагульваюць не зусім сумленна заробленыя грошы і перажываюць, што не сталі вялікімі людзьмі. Яны ніколі не адмовяцца ад хабару і ад магчымасьці незаўважна ўзяць чужое. Такія бармэны не даважваюць, не дадаюць роўна столькі, каб чужы не заўважыў, а свой не пакрыўдзіўся. Такіх тыпаў поўна на курортах, у рэстаранах, барах, кавярнях, баеэйнах і цырульнях. Бармэн з «Арабікі» наогул не выклікаў бы ў мяне цікавасці, каб не знікненне парасона. Я нават мог бы зазначыць, што бармэны-мужчыны

ў шмат разоў лепшыя, чым жанчыны. Ён спрытнейшы, робіць усё больш артыстычна, нават таленавіта, але і крадзе незаўважна. І калі ён занёс парасон у падсобнае памяшканне, дык забраць будзе вельмі цяжка.

Знесці маю рэч у падсобку магла і афіцыянтка — плюгкая кабета з пляскатым тварам, на якім бялеў пластыравы крыжык. Ці то нехта ўдарыў пад вока, ці то ўскочыў які струп, і яго схавалі пад пластыр? Такіх жанчын звычайна называюць не па імю і не па прозвішчы, а па бацьку — Іванаўна, Пятроўна, Сідараўна... У яе славянскім паходжанні сумневаў не было. Шырокі твар з носам-бульбінаю, маруднасць у рухах, адсутнасць ветлівасці і глыбока-глыбока схаваная душа бутлегера. У такіх цётак п’яныя мужчыны пытаюцца пра гарэлку ды віно, і ў іх амаль заўсёды знаходзіцца апошняя пляшка за падвойны кошт. Калі для прафесіі бутлегера адшукаць самую адпаведную нацыянальнасць, дык, напэўна ж, гэта будзе расеец. І мяне заўсёды дзівіла, што ў амерыканскіх фільмах пра часы вялікага эканамічнага крызісу трыццатых гадоў усе бутлегеры былі падобныя да расійцаў не вопраткаю і нават не тварамі, а бясконцым жаданнем выпіць самому ды напаіць усіх астатніх. Калі кошт майго парасона з канвертаванай валюты перавесці ў саракаградусную вадкасць, атрымаецца літр, а то і паўтара. Так што афіцыянтка магла зрабіць рызыкоўны крок.

І калі я задаў сабе звычайнае ў такіх умовах пытаньне — хто ўкраў? — дык адразу і зразумеў, што кожны, хто сядзеў са мной за стойкай і піў каву, мог бы гэта зрабіць. Так заўсёды: зробіць адзін, а падазраеш многіх.

Мне дапамог часопіс «Alter ego»: калі я праглядаў табліцы з рысамі латышскага характару, дык раз-пораз паглядаў на прысутных і спрабаваў разгледзець гэтыя рысы на іх тварах.

Праваруч ад мяне, у слаба асветленым кутку, сядзела пара латышскіх хіпі ў зношаных джынсовых марынарках, паабчапляных самымі неверагоднымі значкамі — ад вялікіх пластмасавых пацыфікаў да рабінавых партрэцікаў Леніна і алюмініевых зорачак. У прыхільнікаў вольнай любові былі доўгія і бляклыя твары, падобныя да кветак, што выраслі ў ценю саборнай вежы. Іх вочы былі шырока расплюшчаныя і мелі вельмі слабую рэакцыю на праявы навакольнага свету. Я мог бы паспрачацца, што не прайшло і гадзіны, як гэтая парачка выпаліла апошнюю папяросу з марыхуанай. Хіпі мелі вельмі інтэрнацыянальны выгляд са сваімі доўгімі валасамі, перахопленымі на патыліцах скуранымі раменьчыкамі, замаўлялі каву яны па-латышску. Як сышлі хіпі, я не бачыў, таму выключыць іх са спісу падазроных не мог.

Поруч з хіпі займалі стойку два старыя латышы. Яны пілі толькі каньяк і, пэўна, успаміналі сваё марское мінулае, бо адзін з іх меў вялікія бакенбарды, а ў другога на левай руцэ

сінеў вытатуіраваны якар. Са станоўчых рыс, што падаваліся ў псіхалагічным часопісе, ім больш за ўсё адпавядала трываласць. Але і іх можна было западозрыць. Адкуль у сучасных пенсіянераў грошы на каньяк, калі паўсюль толькі і гавораць, што ўсе старыя людзі пасля павелічэння цэн апынуліся за рысаю беднасці?

Паміж мной і пенсіянерамі сядзела пяцідзесяцігадовая дробненькая жанчынка ў таннай паркалёвай сукенцы. Ёсць такі тыпаж латышскіх жанчын, якіх я называю «Агаты». Вонкава яны нагадваюць эмансіпаваных прыхільніц ханжаскіх ангельскіх нораваў віктарыянскай эпохі, вядомых сярод стваральнікаў выдуманых прыватных дэтэктываў. Але зазвычай латышскія Агаты працуюць у гатэлях прыбіральшчыцамі ці пакаёўкамі, збіраюць і здаюць парожнія пляшкі, што застаюцца ў нумарах пасля адпачыннікаў. А на заробленыя грошы дазваляюць сабе трыццаць грамаў каньяку, піражнае і падвойную каву без цукру. Такія клянуць маральную дэградацыю моладзі і сексуальную распуснасць, а калі ніхто не бачыць, яны засоўваюць ва ўласную валізку забытую адпачыннікам кашулю. Мой чорны, у сваім аскетызме нечым ангельскі, парасон мог спадабацца такой Агаце.

Леваруч ад мяне маладая цяжарная жанчына карміла марозівам белатварага хлопчыка. Ён еў марудна, і жанчына, было чуваць з інтанацыі, прыспешвала дзіця. У старым медычным часопісе

я аднойчы прачытаў вялікі артыкул пра клептаманію, цэлы раздзел там прысвячаўся цяжарным жанчынам. Даследчык пераканаўча і са шматлікімі прыкладамі даводзіў, што многія жанчыны падчас цяжарнасці дазваляюць сабе браць чужое. Цяжарныя жанчыны параўноўваліся з птушкамі, якія будуюць гняздо. Атрымлівалася, што й безабаронная маці з хлопчыкам, хай і несвядома, але ж магла знесці з кавярні парасон.

За цяжарнай жанчынаю смакавалі марозіва дзве пастэльныя дзяўчыны. У асяроддзі латышскіх школьніц старэйшых класаў вельмі распаўсюджаны такі тыпаж. Яны апранаюцца ў шырокія спадніцы і сукенкі далікатных пастэльных колераў: папярова-ружовы, светла-бэзавы, лёгка-салатны, пяшчотна-жоўты. Яны робяць ледзь заўважны макіяж, а завушніцы й бранзалеты носяць пераважна лёгкія і маціцовыя. Такія дзяўчыны да шаленства любяць усё мучное, салодкае, крэмавае, яечнае. І могуць з’ядаць неверагодную колькасць печыва, марозіва, шакаладак і цукерак. Яны ведаюць усе бары і кавярні, усе кулінарыі і гастраномы, усе назвы тартоў, булачак, ватрушак і пернікаў. У такіх пастэльных дзяўчат шырокія, як у замужніх кабет, спіны і выразна азначана другое падбароддзе. Іх светлыя паўночныя вочкі затуманены гурманным кайфам, а цэнтр нервовай дзейнасці ў іх знаходзіцца крыху вышэй глыбокага пупка, у нетрах натамлёнага страўніка. Мой

парасон яўна не пасаваў бы да строяў такіх дзяўчынак, але нават на адну порцыю марозіва патрэбныя грошы.

Каля кававаркі задуменна глядзеў у столь малады чалавек у акулярах з тоўстымі шкельцамі. Задуменнасць такога кшталту з'яўляецца на тварах студэнтаў, якія пасля выцягвання экзаменацыйнага білета зразумелі, што не ведаюць адказаў ні на адно з трох пытанняў. Гэтыя студэнты вучацца ў вышэйшых установах па восем—дзесяць гадоў, замест патрэбных пяці. Яны любяць разважаць на модныя тэмы, не ведаючы прадмета. Але яны маюць такі прыстойны, я б сказаў, самы ідэальны студэнцкі выгляд, што адміністрацыя не наважваецца іх выключыць без правоў на аднаўленне. І студэнт-другагоднік ходзіць бясконца ў акадэмічныя адпачынкі, пераздае па шэсць разоў іспыты, пакуль канчаткова не абрыдне выкладчыкам і тыя не напішуць у залікоўцы «здавальняюча». А ў вольны ад вучобы час такі студэнт любіць наведаць курорт. Фінансы ў студэнта абмежаваныя, і нічога дзіўнага, што час ад часу яго бачаць за дробным крадзяжом.

Крадзеж парасона — безумоўна, дробная, але крымінальная справа.

Вось я і абмаляваў дванаццаць падазроных асоб, якія сышлі з кавярні і маглі забраць мой парасон. Прабачце, адна з якіх магла забраць мой парасон.

Усе назіранні і высновы, падазрэнні і меркаванні я перабраў вельмі хутка. Значна хутчэй,

чым вы прачыталі, а тым больш — хутчэй, чым я цяпер запісаў. Я не стэнограф і аддаю перавагу звычайнай чарнільнай асадцы і лінаванай паперы, але тады была іншая сітуацыя.

Заставацца ў кавярні не мела сэнсу. Калі бармэн або афіцыянтка і скралі парасон, дык вынесуць яго толькі пасля працы. І я вырашыў абавязкова падысці і падпільнаваць, як яны выйдуць увечары са сваёй «Арабікі». З гэтай думкаю і выйшаў на дождж. Шпаркай хадою я накіраваўся на чыгуначную станцыю «Дубулты». А раптам хто з наведнікаў сеў чакаць электрычку і на хвілінку забыўся, што трымае ў руцэ крадзеную рэч? І я ўзрадаваўся, калі пабачыў сутулыя спіны латышскіх хіпі, што абняўшыся сядзелі на лаўцы пад станцыйным навесам. Крадком я абышоў станцыю і расчараваўся — парасона ў хіпі не было. Хлопец з дзяўчынаю самааддана цалаваліся. На ўсялякі выпадак зайшоў у станцыйны будынак, дзе каля акенца касы адлічвала грошы за квіткі цяжарная жанчына, яе хлопчык стаяў побач. Парасона не было. І чым больш я ўсведамляў незваротнасць страты, тым больш хацелася знайсці і вярнуць парасон. Дождж пачаў аціхаць, і я накіраваўся да кнігарні. Я ішоў пад імжычкаю і зайздросціў усім, хто меў хоць нейкі парасон. Мой швэдар набрыняў, нагавіцы пацямнелі, валасы наліплі на лоб.

Зазірнуў я і ў хлебную краму, дзе пабачыў тых самых пастэльных дзяўчынак, яны куплялі

вялікія пернікі ў выглядзе котак і сабачак. Дзяўчынкі ў светлых сукенках, самі таго не ведаючы, пакінулі кола падазроных.

Каля прамтаварнай яткі я ўбачыў сівую латышку, якую завочна ахрысціў Агатаю. Яна пільна разглядала вітрыну з пральнымі сродкамі. Мыла было складзена ў акуратную пірамідку, на якой стаяла акуратная шыльдачка: «Падчас пакупак, калі ласка, паказвайце візітоўку». Яшчэ абдумваўся малапрыемны факт, што без візітоўкі не змагу набыць нават брусок мыла, каб мець чыстыя рукі за сталом, як убачыў свой парасон.

Я пазнаў бы яго сярод тысячы чорных парасонаў, бо зрабіў метку — наматаў белы матузок на адну са спіц, а тут ён велічна ўзвышаўся над жаночымі стракатымі мацерчатымі грыбамі, якія і парасонамі назваць цяжка, не пакрыўдзіўшы гонар майго абаронцы ад дажджу. Пад парасонам ішоў, пакульгваючы, той, на каго я менш за ўсё нагаворваў, калі даваў характарыстыкі. Скураное дзяржальна сціскала рука з вытатуіраваным якарам. Пенсіянер не спяшаўся, і хворая нага не замінала ўцёкам, ён быў упэўнены ў сабе. І я разгубіўся.

Пасярод вуліцы адзін чалавек падыходзіць да другога і пачынае вырываць з рук парасон? А калі злодзей скажа, што гэта ягоны парасон, а мяне ён і ведаць не ведае? А мае тлумачэнні пра белы матузок проста смеху вартыя.

Я крочыў па калюгах пад дажджом за кульгавым злодзеем, а ён спакойна, ва ўсялякім разе

з выгляду, ішоў пад маім парасонам. Ён спыніўся каля кавярні «Сарма», склаў парасон і наважыўся пераступіць парог. І ў гэтае імгненне я кінуўся да яго. Усё атрымалася само па сабе, я не думаў, што і як зраблю. Выхапіў з ягоных татуіраваных рук свой парасон, а ў расчырванелы ад каньяку твар вельмі выразна, вылучаючы кожнае слова асобна і расстаўляючы дакладныя націскі, прагаварыў:

— Ты выпадкова ўзяў мой парасон!!!

Злодзей яўна не чакаў такога напорыстага нахабства з боку ахвяры, але праз імгненне ўся вуліца напоўнілася ягонай лаянкаю. Вакол нас імгненна сабраўся натоўп. Злодзей размахваў кавенькаю і крычаў, што нібыта я ў яго адабраў парасон, што я — бандыт, руская свіння, акупант, што такіх трэба гнаць з Латвіі, што ў незалежнай Латышскай Рэспубліцы не было злодзеяў...

Канфлікт набываў вельмі небяспечны для мяне характар. Дастаткова мне было ўбачыць агрэсіўныя, напоўненыя злосцю вочы маладога рудавусага латыша, каб зразумець, што выбрацца з гэтай вострай сітуацыі будзе цяжка. І калі мая ўпэўненасць у тым, што я з гонарам выйду з канфлікту, пачала раставаць, як кавалак масла на гарачай паніве, згадаўся парасонны чахол. Чорны, шалёсткі, ён ляжаў у кішэні. Пад варожымі позіркамі я выцягнуў чахол і ўзняў яго, не раўнуючы як незалежніцкі бел-чырвона-белы сцяг Беларусі.

Злодзей змоўк, разгубіўся, а я раскрыў вялікі, але зручны і лёгкі, свой дарагі і любімы парасон дый рушыў прэч.

Ва ўсёй дэтэктыўнай гісторыі мяне, шчыра кажучы, абурае толькі адна акалічнасць. Няўжо людзі не адчуваюць, не бачаць, не разумеюць таго, што ў мяне нельга красці рэчы? Калі ты збіраешся ўзяць чужое, трэба ведаць свае магчымасці, разумець, якая справа атрымаецца, а якая — не. Вось я, напрыклад, не стаў выносіць з музею карціну мастака эпохі Адраджэння Джарджоне «Сон Венеры».

*Юрмала. Ліпень 1991 года*

Асобы:

1. Зміцер Хут — трыццацігадовы журналіст, нежанаты, жыве з мамаю, якую любіць, паважае, слухаецца ва ўсім, апроч прафесійных спраў. А працы ён адданы да самазабыцця. Зміцер згодны дзеля поспеху на рабоце ісці на ахвяры: хадзіць па архівах, ездзіць у камандзіроўкі, падманваць і рызыкаваць. Хут марыць высачыць хоць бы адну пачвару, прывіда, здань. Таму ён з дзяцінства заўсёды трымае напагатове фотаапарат.

2. Ліда Лазаркоўская — настаўніца-філолаг, выкладае мову і літаратуру ў Сапежынскай школе. У Ліды чорныя, трошачкі прыгаслыя вочы, залацiста-брунатныя валасы, на якіх ззяе тысяча іскрынак і ніводная з іх не адаб’ецца ў воку, каб хоць на імгненне парушыць глыбокі сум. У Ліды прывабная пастава местачковай шляхцянкі, рухі плаўныя, але ўпэўненыя і ўладарныя: што зробіш — настаўніца, хай сабе і лірыкі. Для Ліды Лазаркоўскай боскія цуды могуць з’яўляцца выключна ў хрысціянскім саборы, хай сабе ў занядбаным і паўразбураным.

3. Алег Будзько — настаўнік геаграфіі. Пра яго знешнасць можна сказаць адным словам — «відны». А вось погляды на жыццё меў даволі адметныя: імперыю лічыў дасканалай формай дзяржаўнасці. Таму спрабаваў аб’яднаць хрысціянскую мараль з камунізмам. Але ў Сапежыне апроч пісання

артыкулаў у мясцовую газетку так нічога вартага і не зрабіў.

4. Базыль Гладкевіч — дырэктар Сапежынскай школы. Худы і сутулаваты мужчына з сівой акуратнай бародкаю. Акуляры «ровар» — запозненая даніна юнацкаму захапленню біт-музыкай і Джонам Ленанам. Доўгія, зачэсаныя назад валасы занадта сівыя, каб нагадваць пра ільва, хутчэй — ліс-пярэварацень: хітры, але стомлены, прыціснуты абставінамі. Доўгі чырвоны шалік, які Гладкевіч павязвае вакол шыі, страшэнна не пасуе яму ў паўсядзённым жыцці. Пэўна, таму доўгія пальцы дырэктара ўвесь час завязваюць і развязваюць вузельчыкі на мэндліках. Такому да твару падышоў бы манокль. Базыль Гладкевіч не столькі верыць, як любіць расказваць пра сапежынскіх зданяў.

5. Адміністратарка гатэля — рухавая, вастраносая кабета, з круглым тварыкам і ружовымі шчокамі. У сваім запенсійным узросце захавала цікаўнасць да шматаблічнасці жыцця. Такіх жанчын-бабулек цікавіць усё на свеце: ад плямкі на прасціне да вайны на Каўказе. Яна згодная слухаць вашы паданні цэлымі суткамі, калі 23 гадзіны вы будзеце выслухоўваць яе апавяданні. У радыусе адзінаццаці кіламетраў для такіх людзей не існуе таямніц, прынамсі, яны ў гэта вераць. Дарэчы, у маладосці яна служыла пакаёўкай у маёнтку Баркулаба Гарта.

6. Сымон Лазаркоўскі — настаўнік гісторыі. Дастаткова аднаго погляду на шышкаваты чэрап, каб пераканацца ў Сымонавых педагагічных здольнасцях. Ён — настаўнік ад цемені да самых дзюбачак наваксаваных да бляску чаравікаў. З такіх Лазаркоўскіх атрымліваюцца выдатныя калекцыянеры, наглядчыкі, антрапологі — ну, і педагогі. У людзей гэтай пароды заўсёды падрыхтаваны адказ на любое пытанне. Толькі зірнеш у праўдзіва-вялікія вочы — жаданне пытацца выпарваецца. Застаецца адно даведацца, а колькі ж цяпер часу? Сымон Лазаркоўскі няспешна дастане гадзіннік на срэбным ланцужку і абвесціць час з дакладнасцю да секунды. Ён жорстка падзяляе людзей на тых, у каго ёсць душа і, адпаведна, бессмяротнасць, і бяздушных, каму пасля смерці наканаваны нябыт.

7. Генадзь Сурма — маленькі чалавек, пастаўлены ўласнымі амбіцыямі на высокія абцасы. Яго лоб упрыгожвае чорны пушысты чубок — усё, што засталося ад некалі густога чуба. Генадзь носіць выключна белыя накрухмаленыя кашулі з жабо — адзіная раскоша ў гарнітуры. Нагавіцы ў Гены школьныя, набытыя ў краме «Дзіцячы свет». Усім аблiччам Сурма нагадвае хлопчыка-выдатніка, якога ніхто не любіць, нават настаўнікі, змушаныя ставіць яму «выдатна», бо проста больш няма каму. Ягоныя погляды на жыццё мяжуюць

з цынізмам, а правінцыю ён малюе адно чорнаю фарбай.

8. Яніна Сабалеўская — бібліятэкарка. Яна сядзіць у пустой бібліятэцы, нібыта райская птушка ў скрынцы з-пад абутку. Вось тут прайшла, мінула, згасла яе маладосць — сярод пылу, кніжных пераплётаў, чэзлых кветак ды зморшчаных кактусаў. Але Сабалеўская не скарылася — акуратны макіяж, прычоска, манікюр. І дзеля чаго? Дзеля якога каралевіча паблісквают срэбныя завушніцы? Дзеля якіх вытанчаных натур лунае прахалодны водар французскае парфумы? Невядома. Таямніца. Як невядома, па чыім заказе маляваўся той ці іншы партрэт, што вісіць на музейнай сцяне.

9. Юрась Талочка — следчы. Ён чымсьці нагадвае старшыню калгаса. Можа, кароткім шырокім гальштукам, які ляжыць на ягоных грудзях, нібыта высалаплены язык? А можа, падабенства ў налітым, напампаваным прыроднай жыццяздольнасцю твары? Рукавы ягонага пінжака выглядаюць закараткаватымі. Паўнець, тлусцець, naліваца Талочка пачаў нядаўна. Ён яшчэ малады чалавек, а ўжо прыняў местачковае жыццё цалкам, «з чаркаю і скваркаю». Губы ільсняцца, і пытанні вьіслізгваюць з іх, як ментузы з рук. Такому Юрасю лягчэй знайсці сто кодабаў крадзенай бульбы, чым адну няправільную літару на старонцы тэксту.

Для яго ўсе злодзеі — людзі, але і ўсе людзі — злодзеі.

10. Іван Зайцаў — настаўнік працы, спеваў і расійскай літаратуры. Твар у Івана зямлісты, і адзіная адметнасць — глыбокія складкі, што заляглі ад крылцаў носа да куточкаў губ. У вадзяністых вачах прырода прасвідравала такія глыбокія зрэнкі, што, здаецца, іх жахлівая глыбіня значна большая за вачаніцы ў чэрапе. Пры ўсім гэтым у Івана ёсць і свая прыгажосць, праўда, мярцвяная, як у тэлевізійным дыктары, але сярод жанчын ёсць прыхільніцы такіх абліччаў.

11. Баркулаб фон Гарт — доктар, оптык-механік. Уладар сапежынскіх земляў. Асоба настолькі таямнічая і злавесная, што партрэт яе ўяўляецца ў запыленым расколатым люстэрку. Звесткі пра рэальнае жыццё доктара Гарта перарываюцца ў верасні 1939 года. Але паколькі ніхто не бачыў ягонае смерці, дык сапежынцам мроіцца за кожным таямнічым здарэннем постаць Баркулаба фон Гарта.

## 1

Алег Будзько ўказальным пальцам адцягнуў ніжняе века і зняў кантактную лінзу. Шкляная, выгнутая, як луска, пласцінка выслізнула ў мензурку

з фізіялагічным растворам. Алег паміргаў і прыбраў слязу ражком насоўкі. Мензурку ён паставіў на кніжную паліцу.

Будзько ледзь не кранаўся галавою нізкай скошанай столі мансарды. Невялікі пакой выглядаў адначасова як святліца, кабінет і сталовая: вузкі дашчаны тапчан, засланы клятчатай радзюжкай; школьны настаўніцкі стол, канспекты і геаграфічныя атласы; вялікая каляровая карта паўшар'яў, прышпіленая да столі; побач з падручнікамі на кніжных паліцах абы як пастаўлены танны фаянсавы посуд; урачыста зашклёная, як карціна, калекцыя мінералаў у цяжкай дубовай раме.

Унізе ледзь чутна рыпнулі дзверы.

Будзько выйшаў на сходы і гукнуў: «Яніна, вы?» Але ў доме, як і да гэтага, панавала ціша. Праз залу бязгучна прайшоў чорны кот.

Алег дастаў з шуфляды стала важкі артылерыйскі бінокль. У ліловых лінзах аб'ектываў паплылі скажоныя адбіткі пакоя. За расчыненым паўкруглым акном паўставаў вечаровы Сапежын: васковая вежа касцёла ў лішаях аблупленага тынку, цёмна-сіні дах царквы, стромкая званіца, што ледзь вытрымлівала цяжар залачонага купала; на запыленым пляцы поруч з аўтобуснай станцыяй ззяла разбітым шклом шыльда гатэльнай рэстарацыі «Дзвіна»; безгустоўна яркія ружовыя, салатавыя, брудна-блакітныя і брунатныя аднапавярховыя дамкі бязладна парушалі аднастайнасць ужо цёмнай чэрвеньскай зеляніны; ад грэбеня

ялovaga лесу, што тапырыўся над стромай пясчанага кар’ера, да мястэчка падбіралася навальнічная хмара парослых соснамі могілак. У ёй чырванела дахоўкай гатычная капліца. Праз дарогу ад могілак узвышалася на грудку бібліятэка — свежавыбелены вапнаю аднапавярховы дамок з блакітнымі ваконнымі рамамі. За нізкім штыкетнікам у гародчыку пакалыхваліся на высокіх сцяблінах далікатныя вяргіні. У кветнік зайшла жанчына.

Алег Будзько пакруціў акуляры. Трохі расплывістая выява акрэслілася — Яніна Сабалеўская зразала бліскучымі нажніцамі кветкі. Жанчына схавала твар у букеце. Будзько глядзеў, як яна зайшла ў бібліятэку, паставіла вяргіні ў вазу і старанна выцерла нажніцы ручніком. Міма гародчыка стары дзядок у вялікім капелюшы і ў рогавых акулярах, пастукваючы кульбаю па бруку, павёў козы. Яму насустрач прабегла зграйка босых цыганят, услед якім ляцеў брэх сапежынскіх сабак.

За мястэчкам, паміж блакітных, парослых ядлоўцам грудоў, ляжала крывое люстэрка Русалчынага возера. Будзько зноў падкруціў акуляры і ўбачыў, як пры самай вадзе крочыць сутулаваты мужчына з касою на плячы. Паўночны краявід толькі пачынаў набіраць вечаровыя золата і чырвань. Нешта знаёмае падалося Алегу ва ўпэўненым кроку мужчыны-касца. Ён паспрабаваў настроіць бінокль, але локаць саслізнуў са стала, і Будзько асляпіла сканцэнтраванае лінзамі сонца.

Цікаўны да чужога жыцця настаўнік геаграфіі не пачуў, як за яго спінаю адчыніліся дзверы, і ў прагале паўстала постаць у доўгім чорным плашчы. Высокі настаўлены каўнер датыкаўся да шырокага цёмнага берэта. Яркі шалік пакідаў на твары толькі месца для цёмнасініх люстраных акуляраў. Рука ў пальчатцы занесла над географам зведзеныя вострадзюбыя нажніцы.

Настаўнік адчуў — за ім нехта стаіць, але страх не дазволіў азірнуцца. Апісаўшы дугу, рука ў пальчатцы глыбока загнала нажніцы ў чалавечае вуха. Забойца адступіўся. Алегава цела выпрасталася і разам з крэслам абрынулася на падлогу. Забойца пераступіў праз нябожчыка, зачыніў акно і зашморгнуў фіранку. Ён падхапіў забітага пад пахі і няспешна пацягнуў сходамі. Абцасы несамавіта пастуквалі па прыступках. Забойца цягнуў цела праз залу і ледзь не паваліў цабэрак з высокім фікусам. Вялікі, як рыбіна, мёртвы ліст плаўна зляцеў на кілім. З-пад камоды бліснулі вочы перапалоханага ката. Забойца плячом адчыніў дзверы ў святліцу. Праз завешанае цюлем акно ў пакой падаў касы слуп пыльнага святла. Прыцішанае вечаровым сутоннем сонца крышылася ў вузкім люстры трумо, дзе адбіваўся высокі металёвы ложак з пірамідай гладкіх падушак. Забойца паклаў цела настаўніка на ходніку, адкінуў коўдру, разабраў піраміду падушак і пачаў распранаць нябожчыка. Клятчатая кашуля і джынсы акуратна леглі на

